*Пра быццё наша і аб тым, як трэба жыць, разважае кандыдат эканамічных навук Уладзімір Ганчарык (стар. 2).*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 25 (4380)**

29 сакавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

«Народная Воля»
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

КАДРАТРУС

## ...З-за карэлых кароў паляцелі галовы высокіх начальнікаў

*Па выніках візіту ў Шклоўскі раён А.Лукашэнка 27 сакавіка падпісаў указы, якія закранулі адразу некалькіх высокапастаўленых чыноўнікаў.*

**Міхаіл Русы** вызвалены ад пасады намесніка прэм'ер-міністра Беларусі.

**Уладзімір Даманеўскі** вызвалены ад пасады старшыні Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта.

**Леанід Заяц** вызвалены ад пасады міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі.

На памочніка прэзідэнта – інспектара па Магілёўскай вобласці **Генадзя Лаўранкова** ўскладзена выкананне абавязкаў старшыні Шклоўскага раённага выканаўчага камітэта (замест **Васіля Віцюнова**, які таксама адхілены ад пасады).


Міхаіл Русы.


Леанід Заяц.


Генадзь Лаўранкоў.


Уладзімір Даманеўскі.


Васіль Віцюноў.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## «Не имею к этому отношения...»

*Управление Департамента финансовых расследований Комитета государственного контроля по Могилевской области возбудило уголовное дело по фактам злоупотребления служебными полномочиями со стороны должностных лиц ОАО «Амкодор-Шклов» и ООО «Купаловское».*

*Предприятию «Амкодор-Шклов» причинен ущерб в особо крупном размере. «Будет дана правовая оценка работы должностных лиц вышеуказанных обществ и органов государственного управления, которые не обеспечили надлежащие условия хозяйствования и производственной дисциплины, что привело к фактам бесконтрольности и бесхозяйственности», – цитирует belta.by начальника управления Департамента финансовых расследований КГК по Могилевской области Александра Шаройкина.*

*Как отреагировал на новость об уголовном деле известный белорусский бизнесмен, председатель Совета директоров ОАО «АМКОДОР» – управляющая компания холдинга»* ***Александр ШАКУТИН****?*

**– Александр Васильевич, а можете прокомментировать этот скандал? У вас же было одно из лучших предприятий в Могилевской области...**

– Я никакого отношения к этому не имею, два года уже не руковожу там, и ничего не знаю о том, что там делается. И людей, которые там остались, не знаю. Те, кто со мной работал, – они тоже ушли, не остались. Поэтому никаких комментариев дать не могу – просто ничего не знаю...

Но знаю, что мы оставили там большое, нормальное хозяйство, хотя взяли когда-то как убыточное. Вышли на прибыльную работу – и все на этом.

**– Получается, сегодня у вас уже нет своих сельхозов?**

– Нет.

**– Отказались, потому что слишком затратное это дело? Александр Мошенский говорил, что вложил в убыточный колхоз 40 миллионов долларов, а результат появился только через 10 лет...**

– Мы начали производить сельхозмашины. И очень успешно занимаемся этим производством.

Так что мы к этим предприятиям, о которых вы говорите, не имеем никакого отношения. Хотя все звонят, спрашивают, что такое... Все было хорошо, мы занимали призовые места в стране по урожайности, у нас все было нормально. А что произошло потом и что происходит сейчас – этого я не знаю...

**Марина КОКТЫШ.**

## У Мінску з афіцыйным двухдзённым візітам знаходзіцца Федэральны канцлер Аўстрыйскай Рэспублікі Себасцьян Курц

ПАМЯЦЬ

## «Масіў імёнаў» – на алеі мемарыяла «Трасцянец»

Акрамя прадугледжаных праграмай перамоў з кіраўніцтвам нашай краіны, Федэральны канцлер Аўстрыі Себасцьян Курц учора разам з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам браў удзел ва ўрачыстых мерапрыемствах на тэрыторыі мемарыяла «Трасцянец». Яны былі прысвечаны адкрыццю новага памятнага знака «Масіў імёнаў», які ўсталяваны на алеі, што вядзе да ўрочышча Шашкоўка. Там падчас Другой сусветнай вайны знаходзілася яма-печ для спальвання людзей. У ёй загінула больш за дзесяць тысяч аўстрыйскіх яўрэяў, якіх нацысты прывозілі ў Трасцянец цягнікамі. Вядома, што было дзесяць эшалонаў смерці. Таксама захаваліся спісы імёнаў, таму што, паводле д'ябальскай задумкі нацыстаў, аўстрыйскія яўрэі самі аплачвалі свой праезд да беларускага Трасцянца. А на самай справе – на той свет...



Мастацкая кампазіцыя «Масіў імёнаў» створана па ініцыятыве і за кошт аўстрыйскага ўрада. Яна ўяўляе сабой велізарны камень, які расколаты на дзесяць частак-калон – па колькасці цягнікоў, на якіх аўстрыйскіх яўрэяў дэпартавалі ў беларускі лагер смерці. На паверхні каменя выбіты імёны ўсіх загінуўшых.

Новы памятны знак у тры з палову метры вышынёй зроблены з фібрабетону – практычнага, даволі недарагога, пры гэтым выразнага матэрыялу. Яго аўтары – архітэктар з Аўстрыі Даніэль Занвальд, скульптар-беларус Канстанцін Касцючэнка (ён жа стварыў цэнтральную кампазіцыю «Брама памяці»).

Пасля афіцыйнага адкрыцця памятнага знака ў Палацы Рэспублікі адбыўся канцэрт-рэквіем.

**Алена ЛУБНЕЎСКАЯ.**

## З прызначэннем!

Учора А.Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні. Як паведамляе прэс-служба, кіраўнік дзяржавы прызначыў:

**Лучанка Андрэя Іванавіча** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах і па сумяшчальніцтве ў Дзяржаве Кувейт, Каралеўстве Бахрэйн і Каралеўстве Саудаўская Аравія;

**Дарошку Сяргея Іванавіча** – начальнікам установы адукацыі «Акадэмія Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь»;

**Кубракова Івана Уладзіміравіча** – начальнікам галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкама;

**Грыба Міхаіла Вячаслававіча** – начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама;

**Ржавускага Андрэя Іосіфавіча** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Народнай Рэспубліцы Бангладэш і Федэратыўнай Дэмакратычнай Рэспубліцы Непал па сумяшчальніцтве.

Прэзідэнт таксама даў згоду на прызначэнне:

**Ласевіча Аляксандра Георгіевіча** – старшынёй Лагойскага райвыканкама;

**Масляка Сяргея Міхайлавіча** – кіраўніком адміністрацыі Заводскага раёна г.Мінска;

**Любатынскага Генадзя Іванавіча** – кіраўніком адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г.Мінска;

**Вараніцкага Валерыя Віктаравіча** – кіраўніком адміністрацыі Партызанскага раёна г.Мінска;

**Шкруднева Сяргея Анатольевіча** – кіраўніком адміністрацыі Фрунзенскага раёна г.Мінска;

**Новікава Аляксандра Аляксандравіча** – генеральным дырэктарам ААТ «Гомсельмаш»;

**Ляхновіча Аляксея Аляксеевіча** – першым намеснікам міністра транспарту і камунікацый;

**Іванова Андрэя Мікалаевіча** – намеснікам міністра транспарту і камунікацый;

**Александровіч Наталлі Мікалаеўны** – намеснікам міністра транспарту і камунікацый;

**Гарэліка Юрыя Уладзіміравіча** – дырэктарам Дэпартамента знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства замежных спраў.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Пенсіённы ўзрост для мужчын трэба знізіць!

Актывісты Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) лічаць, што разбежка паміж сярэдняй працягласцю жыцця мужчын і жанчын у Беларусі празмерна высокая і складае ў сярэднім каля 12 год. Мужчыны жывуць на пенсіі значна менш за жанчын. Гэта з'яўляецца дыскрымінацыяй мужчынскай часткі насельніцтва.

*"У развітых краінах лічыцца нармальным, калі сярэдняя разбежка ў працягласці жыцця мужчын і жанчын складае 4,5 года і жанчыны ў сілу фізіялогіі жывуць крышку даўжэй*, – гаворыць старшыня БСДП **Ігар Барысаў.** – *Калі гэтая разбежка большая, то гэта ўжо праблема, і варта прымаць дадатковыя праграмы па павелічэнні працягласці жыцця мужчын. У нас гэтага не робіцца. Акрамя таго, пенсіённы ўзрост мужчынам быў падвышаны з 60 да 63 гадоў. Гэта ўсё выглядае так, нібы дзяржава не хоча плаціць пенсіі і скідвае з сябе цэлую мэтавую групу, якая складае больш за 46% грамадзян краіны".*

Улічваючы беларускія асаблівасці, выхад на пенсію, паводле меркавання актывістаў БСДП, у Беларусі мусіць адбывацца для жанчын у 58 гадоў, а для мужчын у 60 гадоў.

Першы намеснік старшыні БСДП **Аляксей Сігаеў** адзначае, што актывісты партыі плануюць збор подпісаў да Адміністрацыі прэзідэнта з патрабаваннем адмяніць указ, які павысіў пенсіённы ўзрост, а таксама іншыя акцыі.

**Галіна РУТ.**

ОТКРОВЕННО

Павел УТЮПИН:

## «Совести им не хватает...»

*Министр промышленности Беларуси по просьбе «Народной Воли» прокомментировал недавние скандальные задержания директоров некоторых предприятий.*

**– Павел Владимирович, на ваш взгляд, чего сегодня не хватает директорам предприятий, почему они соблазняются на взятки?**

– Совести им не хватает...

**– А может, все дело в невысокой зарплате?**

– Нет, не в зарплате, а именно в совести.

**– Многих удивило задержание гендиректора БелОМО Вячеслава Бурского. Он руководил предприятием с 1992 года, лауреат Госпремии, заслуженный работник промышленности...**

– В отношении некоторых руководителей, в том числе и Бурского, сейчас проводятся определенные процессуальные действия. Естественно, их действиям будет дана правовая оценка. В большей степени я обратил бы внимание на те дела, по которым уже состоялись суды и вынесены приговоры...

Позиция Министерства промышленности простая: нечего брать чужое! Директора должны в первую очередь решать вопросы предприятия и людей, которые там работают, а не свои личные! Сейчас проводится большая работа по антикоррупционной деятельности. Думаю, вы знаете: на любом предприятии есть так называемые болевые точки: снабжение, реализация техники – это те сферы, которые мониторят в первую очередь. И в конечном итоге после проверок совместно с правоохранительными органами принимаются конкретные действия. Поэтому позиция министерства простая: не надо брать!

И, поверьте, дело вовсе не в маленьких зарплатах и большой ответственности генеральных директоров заводов. У руководителей предприятий заработная плата, естественно, гораздо больше, чем у работников предприятий. Она зависит от конкретных результатов работы предприятия, есть определенная система премирования, эта система хорошо работает. Соответственно, вопрос не в этом.

**– То есть директора предприятий – люди не бедные?**

– Совершенно не бедные! Обеспеченные люди. Все с высшим образованием. Просто так директором предприятия не станешь. Как правило, все наши управленцы имеют огромный опыт, проходят все ступени карьерной лестницы. Просто не надо брать взятки, и тогда все будет в порядке...

**Марина КОКТЫШ.**

## К вниманию граждан Украины, которые проживают или временно пребывают в Республике Беларусь

31 марта 2019 г. состоятся очередные выборы Президента Украины. Граждане Украины, которые проживают или временно пребывают в Республике Беларусь, могут проголосовать на выборах Президента Украины на двух избирательных участках, которые находятся в г.Минске (*заграничный избирательный участок №900007, ул.Старовиленская, 51, помещение Посольства Украины в Республике Беларусь*) и в г.Бресте (*заграничный избирательный участок №900008, ул.Воровского, 19, помещение Консульства Украины в г.Бресте*).

Время работы избирательных участков с 8.00 до 20.00 по местному времени.

В списки избирателей на заграничных избирательных участках в Республике Беларусь включены граждане Украины, которым исполнилось или в день голосования исполнится 18 лет и которые по своему избирательному адресу, **согласно данным Государственного реестра избирателей**, относятся к этим заграничным избирательным участкам. Каждый гражданин Украины может проверить свое включение в Реестр и свои личные данные с помощью онлайн-сервиса «Личный кабинет избирателя» на веб-странице «Государственный реестр избирателей (www.drv.gov.ua). **Лица, не внесенные в список избирателей на заграничных избирательных участках в Республике Беларусь, не смогут проголосовать на этих участках.**

Согласно статье 2 Закона Украины «О выборах Президента Украины», гражданин Украины имеет право получить избирательный бюллетень на заграничных избирательных участках при предъявлении паспорта гражданина Украины для выезда за границу, дипломатического паспорта, служебного паспорта, которые должны быть действительными в день голосования. **Таким образом, на заграничных избирательных участках, в частности образованных в Республике Беларусь, внутренний паспорт гражданина Украины не является основанием для получения избирательного бюллетеня.**

**Приглашаем на выборы Президента Украины!**

**Посольство Украины в Республике Беларусь.**

НУ І НУ!

## Пажартавала на… 100 еўра

Пры ўездзе ў Польшчу на пункце пропуску «Баброўнікі» польскі пагранічнік папрасіў беларускую грамадзянку пацвердзіць наяўнасць ў яе грошай, якія неабходны на час знаходжання ў гэтай краіне. У жанчыны адпаведнай сумы не знайшлося, і яна прад'явіла 100 злотых... раздрукаваных на прынтары.

Пагранічнікі не бяруць у рукі грошай, дастаткова іх паказаць, але паперка са 100 злотымі моцна адрознівалася ад арыгінала. Беларусцы давялося заплаціць штраф у памеры 400 злотых (прыблізна 100 еўра), і цяпер на працягу 3 гадоў ёй нельга паўтараць правапарушэнне ў гэтай краіне, інакш ёй пагражае пазбаўленне волі на год.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

РЕГИОН

## Одарила «София»

*В Краснослободском психоневрологическом доме-интернате (Солигорский район) радостное событие: появились новые стиральная и сушильная машины для 25 килограммов белья, дезинфекционная камера. Это оборудование – гуманитарная помощь от Международного общественного объединения «София», которое осуществляет благотворительные проекты во многих странах мира.*

В Беларуси «София» работает с 1999 года. Своей целью благотворительное объединение ставит улучшение условий жизни престарелых, людей с ограниченными возможностями, малоимущих, других уязвимых категорий населения. В нашей стране объединение сотрудничает с Министерством труда и социальной защиты населения.

«София» реализовала множество проектов в Беларуси, среди которых, к примеру, получение и распределение инвалидных колясок, многофункциональных кроватей, предоставление грантов на покупку оборудования для детского приемника-распределителя, для обучения молодых инвалидов трудовым навыкам, на проведение обучающих семинаров и так далее.

Координаторы гуманитарных проектов МБОО «София» Уэсли и Руфь Джоунс, исполнительный директор объединения Сергей Зубович сами посетили Краснослободский психоневрологический интернат. Посмотрели, как работают подаренные интернату стиральная и сушильная машины, поговорили с работниками учреждения, поинтересовались, как живут пациенты.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## За чый кошт будуць рамантаваць плот спецпадраздзялення «Алмаз»?

*У мінулую нядзелю на вуліцы Кальварыйскай у Мінску адбылося рэзананснае ДТЗ: кіроўца джыпа праз двары спрабаваў адарвацца ад пераследу даішнікаў, але нешта пайшло не так, і ён наскрозь пратараніў плот базы спецпадраздзялення па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз». Нягледзячы на тое, што інцыдэнт адбыўся а восьмай раніцы, на месца здарэння адразу прыехала шмат міліцыі. Велізарную дзіру літаральна праз некалькі гадзін закрылі фанерай. Дагэтуль плот стаіць з драўлянай латкай.*

*«Народная Воля» пацікавілася, якія пашкоджанні атрымаў кіроўца-камікадзэ, а таксама ці арыштаваны ён?*

*«У ДАІ паступіла інфармацыя аб тым, што кіроўца знаходзіцца ў стане моцнага алкагольнага ап'янення і пры гэтым кіруе транспартным сродкам*, – распавяла «Народнай Волі» начальнік аддзела агітацыі УДАІ Мінгарвыканкама **Аляксандра Папова**. – *Выехала адпаведная патрульная машына, ад якой кіроўца паспрабаваў уцячы. Спачатку ён наляцеў на бардзюрны камень, а затым здзейсніў наезд на бетонны плот»*.

Паводле слоў Аляксандры Паповай, у крыві вадзіцеля выявілі больш за два з паловай праміле алкаголю!

*«Кіроўца не пацярпеў, з ім усё ў парадку. Сур'ёзных пашкоджанняў у яго няма»*, – кажа Аляксандра Папова. Вось сапраўды кажуць: там, дзе цвярозы ўжо развітаўся б з жыццём, п'янаму пашчасціць!

*«Вось гэта сапраўдны краш-тэст!* – каменціравалі ў сацсетках рэзананснае ДТЗ. – *Прабіў наскрозь бетонны плот і застаўся жывы, толькі, як сказалі даішнікі, падрапаўся крыху. Цікава, чаму не паведамляюць, на джыпе якой маркі ён ехаў?»*

«Народная Воля» даведалася: кіроўца кіраваў серабрыстым джыпам «Рэно Дастэр».

Прабіўшы бетонны плот і вылецеўшы на алмазаўскую стаянку, кіроўца ўмудрыўся выкруціць руль і не пашкодзіць машыны супрацоўнікаў спецпадраздзялення.

Але ці давядзецца яму кампенсаваць кошт разбітага бетоннага плота?

*«Пытанні кампенсацыі маёмаснай шкоды будуць абмяркоўвацца пасля завяршэння спецыяльнай праверкі, больш дэтальная інфармацыя па гэтым здарэнні з'явіцца крыху пазней»*, – гаворыць начальнік аддзела агітацыі УДАІ Мінгарвыканкама.

Дарэчы, Аляксандра Папова кажа, што адразу пасля ДТЗ вадзіцеля затрымалі.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**




ТЕМА ДНЯ



## О бытии нашем и о том, как нужно жить…

Как ни печально, но при постоянно растущих розничных ценах и тарифах ЖКХ многие наши люди живут от зарплаты до зарплаты, от пенсии до пенсии. При этом увеличивается задолженность населения банкам, а также организациям, оказывающим различные услуги.

Анализируя сложившуюся ситуацию, белорусы все чаще и чаще сравнивают свой достаток с уровнем жизни людей в других странах. К сожалению, в основном цифры не в нашу пользу. Неслучайно увеличивается количество тех, кто уезжает на заработки за рубеж.

Невольно возникает ряд вопросов. Первый: все ли возможное делается в нашем, согласно Конституции, социальном государстве для создания гражданам надлежащих условий, чтобы они могли нормально зарабатывать и обеспечивать себе и своим семьям достойную жизнь?

Основной показатель развития государства и общества, как известно, валовой внутренний продукт. От него зависят объемы средств, выделяемых на потребление и накопление. Так вот, ВВП за предыдущие годы у нас значительно сократился. И даже с учетом прироста в 2017-м и 2018 годах не достиг прежних показателей. Приходится признать: пока не получается обеспечить стабильно высокие темпы развития экономики. Между тем поставлена новая, весьма амбициозная, задача. *«В 2020 году Беларусь должна предстать миру обновленной, прогрессивной и при этом комфортной для своего народа, всех, кто хочет работать, зарабатывать и растить детей»*, – цитата из Послания Президента к белорусскому народу и Национальному собранию в апреле 2018 года. Скажите, можно ли сказку о счастливой жизни сделать былью за каких-то два года?! Будем реалистами: нельзя. Правда, есть одно обстоятельство. Что подразумевается под «обновлением, прогрессом, комфортом» в наших условиях? С кем будем сравнивать себя – с развитыми странами или аутсайдерами? У нас стабильность, порядок? Согласимся. Казалось бы, в таких благоприятных условиях проще и быстрее обеспечить устойчивый подъем экономики. Но пока же намеченные планы, установки не выполняются должным образом.

Возьмем хотя бы убыточные предприятия и их судьбу. Раньше ставилась задача сохранить трудовые коллективы. Не получилось. Число занятых на предприятиях сократилось. Затем выдавались уже другие поручения. 2014 год: «… *Пора отказаться от государственной поддержки как инструмента спасения неэффективных производств… Поручаю правительству еще раз вернуться к процедурам банкротства: санации и ликвидации… Цель их проведения – получение максимального результата в возможно короткий срок»*. 2015 год: *«Поручаю правительству организовать работу по реструктуризации неплатежеспособных предприятий с привлечением инвесторов»*. Аналогичные, кстати, вполне обоснованные, установки давались и в последующем. Справедливости ради следует заметить: количество убыточных предприятий действительно сократилось. Однако во многом за счет создания различных объединений, холдингов и т.п. А эффективность производства возросла? Экономический механизм, способствующий повышению производительности труда, рентабельности, заработал в полную меру? Увы, статистика в этом плане печальная.

Злободневная тема: низкая окупаемость средств, вложенных в модернизацию промышленных предприятий (цементных заводов, целлюлозного комбината в Светлогорске и других). Причины называются разные: безответственное планирование, отсутствие глубоких технических знаний в области современных производств, слабые директора… И что? Опять констатация фактов? Ну, ошиблись на одном-двух объектах – с кем не бывает. Но ведь это не единичные случаи. Может, пора признать, что коренная проблема в самой экономической системе? И, естественно, делать соответствующие выводы. Время жесткой планово-распределительной экономики безвозвратно ушло.

Практически всё вышеизложенное касается и сельского хозяйства. Да, за прошедшее время в аграрном секторе сделано немало. В основном за счет государства созданы крупные агрокомбинаты, построены агрогородки. Село получило высокопроизводительную технику. Заметно повысилась урожайность зерновых, продуктивность скота. Все это так. А если посмотреть с другой стороны – какая отдача от вложенных средств? Можно привести немало примеров, когда огромнейшие средства потрачены неэффективно, без гарантии того, что намеченные планы окажутся реальными. И здесь налицо несколько причин того, почему аграрный сектор был и остается убыточным. Кое-кем высказывается такое мнение: все беды оттого, что отсутствует крупная частная собственность на землю. Дескать, она не имеет хозяина. Доля правды в этом есть. Но не секрет и то, что хозяин хозяину рознь. Да и солидный землевладелец, скорее всего, будет искать толкового управляющего. А много ли сегодня у нас таких? Что мешает большинству руководителей нынешних сельхозпредприятий быть самостоятельными эффективными управленцами – проблема не просто назревшая, а, я сказал бы, перезревшая. Давно пора готовить руководителей аграрного сектора на другом, более высоком уровне с учетом того, что им предстоит работать в условиях не сегодняшнего, а уже завтрашнего дня. Понятно, они должны чувствовать себя не временщиками на производстве, а полноправными хозяевами, наделенными, например, паями и другими дивидендами.

Что и говорить, без изменения экономической и отчасти политической системы Беларусь не может рассчитывать на запланированный рост валового внутреннего продукта. Но здесь же возникает и второй вопрос: а справедливо ли распределяется ВВП в нашем, опять-таки по Конституции, правовом государстве? Как некое достижение подается оптимизация государственного аппарата: дескать, число чиновников сокращается. Но так ли это на самом деле? Возросла ли эффективность управления? Что, меньше стало бюрократизма, волокиты? Коррупцию в среде чиновничества если не победили, то сократили? Ответ, полагаю, для мыслящих людей очевиден. Более того, в республиканском бюджете на 2019 год, как я заметил, увеличены расходы на содержание органов государственного управления. При этом сокращается помощь семьям, воспитывающим детей, тем, кто нуждается в обеспечении жильем… Минимальную заработную плату не получается установить на уровне минимального потребительского бюджета. Никак не достичь 40-процентного соотношения средней пенсии к средней зарплате. В целом низок и уровень оплаты труда в ВВП. И в то же время – парадокс – находятся средства, чтобы увеличить расходы на правоохранительные органы. Может, потому, что вызывает тревогу криминогенная ситуация? Но наивно думать, что только усилением запретительных мер можно достичь положительных сдвигов в решении злободневных проблем.

Люди, потребности которых не ограничиваются пресловутыми «чаркой и шкваркой», искренно недоумевают: зачем совсем не богатой стране столько дорогостоящих помпезных проектов, мероприятий? Обоснованно возмущаются тем, как зачастую неэффективно используются государственные средства. Справедливо задаются вопросом: почему бы сэкономленные деньги не направить на совершенствование образования, здравоохранения, на культуру, на поддержку нуждающихся семей? Ведь здесь явно прослеживается не только социальная несправедливость. Кто станет отрицать, что упущения в воспитании здоровых потребностей, во всестороннем развитии личности впоследствии дорого обходятся государству и обществу?

Вопрос третий. Насколько реально руководство страны оценивает социально-экономическую ситуацию и, главное, какова реакция при этом на общественное мнение? Вспомним: согласно Конституции, у нас все-таки демократическое государство. Кое-какие подвижки в этом плане, возможно, с учетом приближающихся парламентских и президентских выборов вроде бы намечаются. Так, в прошлогоднем Послании заявлено: надо возвращать деньги населению!.. Имеются в виду средства, которые прямо или косвенно собираются в виде налогов и т.п., а направляются, скажем, на поддержку неэффективных предприятий. Правительству поручено ежегодно увеличивать долю расходов на социальные нужды населения. Таким образом, признаются, хотя и косвенно, упущения в проводимой политике... Все-таки лучше поздно, чем никогда.

Тем не менее, на мой взгляд, необходимы глубинные выводы и решения. В этой связи еще раз вернусь к вопросу об управлении экономикой. Президент заявляет: никак не могу понять, кто сегодня управляет предприятиями – директор, новоявленные представители государства, министры, вице-премьеры, премьер? Спрашивается: а кто и зачем создал такую систему? Чтобы потом признать очевидное: чрезвычайная опека обычно плохо заканчивается, и прежде всего для самих опекаемых. Они не могут успешно работать в реально конкурентной среде... Добавлю: о какой деловой инициативе в таких условиях может идти речь?

В том же программном Послании отмечалось недостаточно эффективное управление экономикой со стороны правительства. Причем было подчеркнуто: это характерно для последних пятнадцати лет. Видимо, и по этой причине состав Совета министров недавно был обновлен. Но что-то подсказывает: и он может стать заложником нынешней государственной системы.

Можно создать, как известно, еще какой-то руководящий орган: министерство цифровой экономики или даже министерство всеобщего благосостояния – но результат будет предсказуем. Индикатор качества управления, по опыту развитых стран, в создании привлекательных условий для хозяйствования: предпринимательства, инвестиций в прогрессивные технологии и т.д. На их основе появляются новые рабочие места и предпосылки роста производительности труда и его оплаты, в итоге повышается покупательная способность населения. Что в свою очередь является основой социальной справедливости и благополучия. Именно в таких условиях действенен простой совет: лучше работаешь – больше получаешь.

**Владимир ГОНЧАРИК,**
**экс-кандидат в Президенты Республики Беларусь, кандидат экономических наук.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

## Чырвоны касцёл б'е ў звон трывогі

Архітэктурнай візітоўкай Мінска многія лічаць дамывароты на Прывакзальнай плошчы. Камусьці ў гэтай якасці больш даспадобы шкляны гмах Нацыянальнай бібліятэкі. А хтосьці па савецкай завядзёнцы аддае перавагу найбольш растыражаванай (нават на канвертах) плошчы Перамогі.

Што ж, пра густы не спрачаюцца – выбраць ёсць з чаго. Мне ж такой візітоўкай бачыцца Чырвоны касцёл, які стаіць на дзвюх плошчах адразу – Незалежнасці (на паверхні) і Леніна (на ўзроўні метро). Названая акалічнасць (а кажучы папросту – бязглуздзіца) даводзіць да лёгкага перапалоху замежных турыстаў, якія не разумеюць, як можна, ступіўшы на перон на адной плошчы, узняцца на эскалатары на другую?

Апошнім часам гасцей беларускай сталіцы бянтэжыць і шчыльная агароджа вакол Чырвонага касцёла. Ходзяць яны кругамі вакол храма, але што за радасць – фатаграфавацца на фоне бляшанага плота? Парадны ўваход зачынены, на службу цяпер можна трапіць толькі праз бакавыя дзверы. Ходзяць чуткі, што і службы неўзабаве спыняцца. Прычына – рамонт-рэканструкцыя касцельнага будынка, якому амаль 110 гадоў. Прычым будаўнічыя работы вядуцца з яўнай паспешлівасцю – падганяюць Еўрапейскія гульні, якія ўжо ўлетку пройдуць у беларускай сталіцы.

Здавалася б, касцёл – не стадыён, а вернікі – не заўзятары, навошта прывязваць спорт да рэлігіі? Але гарадскія ўлады вырашылі прывязаць. У выніку ўся рэканструкцыя, як мяркуе касцельны камітэт, пайшла наперакасяк.

Паднавіць Чырвоны касцёл узялося камунальнае ўнітарнае прадпрыемства «Мінская спадчына», чыя рэпутацыя, мякка кажучы, не бездакорная. Дадаткова падмачылі яе і зімовыя работы на касцельным даху, пасля якіх расталы снег трапляў не ў вадасцёкі, а ў сярэдзіну храма, разбураючы тынк і ўтвараючы трэшчыны. Паводле слоў парафіян, будаўнікі клалі новую дахоўку акурат у моцныя снегапады, а на заўвагі аджартоўваліся: маўляў, гадоў пяць-шэсць страха вытрымае, на большы тэрмін гарантыі не даём.

Перад тым як залезці на дах, будаўнікі-жартаўнікі больш за два гады займаліся плябаніяй, выселіўшы адтуль ксяндза-пробашча Уладзіслава Завальнюка. Паводле назіранняў таго ж касцельнага камітэта, навуковы кіраўнік і галоўны архітэктар праекта на аб'екце практычна не прысутнічалі, а тэхнічная дакументацыя абнаўлялася ледзь не штотыдзень. У выніку выяўлена некалькі дзясяткаў парушэнняў, якія патрабуюць перарабак. «Спадчыннікі» гэтым разам не жартуюць – можам і перарабіць, але толькі за кошт парафіян.

Хочаце зняць з падлогі пазасталы з савецкіх часоў слой бетону – плаціце.

Хочаце дубовыя падваконні замест сасновых – плаціце.

Хочаце якасныя ацяпляльныя батарэі – плаціце (а то паставім чыгунныя).

Хочаце дадатковыя снезатрымальнікі на страсе – плаціце.

Хочаце зрабіць у падвале гаспадарчыя памяшканні (яны там раней былі) – плаціце.

Хочаце прыбудаваць да плябаніі веранду (прадугледжаную праектам) – плаціце…

І такіх «плаціце» назбіраецца цэлы абярэмак з трыма прыгаршчамі і дзвюма жменямі. Абярэмак той, магчыма, выглядаў бы дарэчным, калі б храм належаў парафіі ці Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, якой кіруе мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч. Але ж касцёл – уласнасць дзяржавы, і, паводле дзейнага заканадаўства, настаяцель у ім не мае права нават цвіка ў сцяну забіць.

Ведаючы пра гэткае бяспраўе Уладзіслава Завальнюка, «Мінская спадчына» і гаспадарыць у касцёле паводле правіла «як хачу, так і кручу». Скажам, пры касцёле ўжо гадоў дваццаць дзейнічае тэатр «Зніч», працуюць нядзельная школа і паломніцкі цэнтр «Пілігрым», а прыстасаваных памяшканняў для іх няма. Касцельны камітэт просіць паспрыяць, а ў адказ – сродкі на гэта не прадугледжаны.

Затое сродкі прадугледжаны на прыкладна 100 (!) відэакамер, якія мяркуецца размясціць у храме і вакол яго. Што яны будуць фіксаваць – таямніцу споведзі? Колькасць людскіх ахвяраванняў? Пропаведзі святара? «А цяпер перадайце знак супакою сваім суседзям і ў вочка відэакамеры…» Галівуд нейкі, а не храм Божы.

Зрэшты, адзін галівуд на сваім вяку касцёл ужо перажыў – калі ў ім размяшчаўся Дом кіно. Дайшло неяк да таго, што «Беларусьфільму» заманулася зняць на хорах… каня. І загналі туды бедную жывёліну, і здымалі… А ў алтарнай частцы зрабілі прыбіральню.

Я добра памятаю, як на пачатку 1990-х вернікі адваёўвалі апаганены храм – ладзілі кругласуткавыя малебны, нават трымалі галадоўку. Тагачасная ўлада да іх прыслухалася. Чаму ж улада сённяшняя цалкам ігнаруе самую вялікую ў краіне – дзесяцітысячную – каталіцкую парафію? Вернікі куды толькі не звярталіся са скаргамі на «Мінскую спадчыну» – і ў Мінкульт, і ў Мінгарвыканкам, і на тэлебачанне! Ніхто іх не пачуў.

А тым часам на званіцы Чырвонага касцёла праходзяць апрабацыю новыя званы, адлітыя на ахвяраванні вернікаў. Іх тры, і пакуль што на поўную сілу яны не загучалі. На поўны голас пакуль гучыць адзін звон – звон трывогі. Пачуйма ж яго.

ЧУЛІ?

## «Нафтан» прадае сваю маёмасць

*Нафтаперапрацоўчы завод у Наваполацку прадае цяплічны комплекс пад Полацкам і за аб'ект, дзе можна вырошчваць памідоры, просіць пяць мільёнаў долараў.*

Месяц таму «Нафтан» у чарговы раз спрабаваў пазбавіцца ад сваёй элітнай рэзідэнцыі пад Масквой. Абодва гэтыя аб'екты пустуюць, паведамляе euroradio.fm.

Паводле слоў намесніка генеральнага дырэктара ААТ «Нафтан» **Сяргея Яўтушыка,** *«гэта ўсё няпрофільныя аб'екты, а завод – нафтавае прадпрыемства. Калі непрафесіяналы займаюцца справай, дык цяжка дабіцца рэнтабельнасці».*

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 САКАВІКА 2019 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Чаму беларусы так любяць бярозавы сок?

*У лясніцтвах Гродзенскага раёна жадаючыя набыць бярозавы сок стаяць у чарзе па некалькі гадзін, прычым некаторыя займаюць яе а пятай гадзіне раніцы. Карэспандэнт «Народнай Волі» вырашыў таксама набыць соку і адначасова пацікавіцца, чаму гэты прыродны напітак карыстаецца такой папулярнасцю.*

## Штодня прадаём насельніцтву па 9–10 тон соку

А восьмай гадзіне раніцы на ўезд у Гродзенскае лясніцтва Гродзенскага лясгаса, што побач з вёскай Казіміроўка, чарга прыкладна з 40 легкавых машын. Кіроўцы і пасажыры тупаюць каля сваіх аўто, некаторыя рыхтуюць мяхі, нехта праглядае бітоны і каністры ў багажніках.

Толькі што пачалі адпускаць сок, і першыя машыны заязджаюць у двор лясніцтва. Працэдура няхітрая: аплачваеш у бухгалтэрыі, якая ў будынку адміністрацыі, і тут жа ў двары з трохтоннай металічнай бочкі табе наліваюць сок у тваю ж тару.

Ляснічы Гродзенскага лясніцтва **Уладзімір Казакевіч** кажа, што такія чэргі за бярозавым сокам для іх звычайная справа, прычым кожны год, а не толькі сёлета. *«Летась наогул чарга за сокам расцягвалася на кіламетр, аж да самай Казіміроўскай школы, а сёлета пакуль такога яшчэ не было,* – распавядае ляснічы. – *Мы прадаём кожнаму столькі, колькі ён жадае купіць. Нехта бярэ 50 літраў, а хтосьці і па 350».*

Казакевіч расказвае, што леснікі ідуць у лес а пятай гадзіне раніцы і зліваюць сок у бочку, якую затым прывозяць у лясніцтва, а з 8 гадзін раніцы пачынаюць прадаваць. Сёлетні сезон продажу адкрылі 18 сакавіка, і кожны дзень чэргі, асабліва шмат людзей у выхадныя. Літр соку каштуе 20 капеек.

*«Штодня прадаём насельніцтву 9–10 тон соку. На сённяшні дзень прадалі каля 60 тон,* – дзеліцца лічбамі Уладзімір. – *Але галоўныя продажы ў нас ідуць на кансервавы завод і завод АВС».*

У Гродзенскім лясніцтве выдзелена восем участкаў лесу для падсочкі, там працуюць шэсць брыгад рабочых. Сок набіраюць у поліэтыленавыя мяхі, у лесе такіх пастаўлена 4 тысячы 500 штук.

Са слоў ляснічага, сок спускаюць па адмысловай тэхналогіі, каб не прычыняць шкоды дрэвам: *«Сок бяром толькі на тых лесасеках, дзе бяроза гэтаму адпавядае, а праз пяць гадоў гэтыя дрэвы падлягаюць высечцы».*

## «Купляюць, таму што гэта лек...»

Папулярнасць гэтага прыроднага напітку ляснічы тлумачыць тым, што бярозавы сок з'яўляецца натуральным і гаючым, часта выкарыстоўваецца людзьмі для лячэння нырак і іншых органаў. Маўляў, людзі даўно ведаюць пра яго лекавыя ўласцівасці, таму і купляюць.



*«Асабліва карысна піць яго свежым, бо пры кансервацыі частка вітамінаў губляецца»,* – раіць ляснічы.

Гэтага меркавання прытрымліваюцца і Іван Пятровіч з сынам Аляксеем, якія з самага ранку з'явіліся ля лясніцтва. Яны на дзве сям'і купляюць 300 літраў соку.

*«Жонка і нявестка кансервуюць і з апельсінам, і з лімонам, і з разынкамі на дзве сям'і,* – распавядае Іван Пятровіч. – *Нас шасцёра, то да Калядаў, бывае, гэты сок выпіваем. Купляем штогод. Мае бацькі таксама заўсёды сок ставілі і потым пілі».*

У чарзе за сокам у Гродзенскім лясніцтве. 8-я гадзіна раніцы.

Цікавая размова адбылася ў мяне з яшчэ адным пакупніком – Рыгорам Казіміравічам. На маё пытанне, навошта набывае бярозавы сок, ён адказаў пытаннем: ці памятаю я былога сакратара Гродзенскага абкама партыі Леаніда Герасімавіча Кляцкова?

Канечне, памятаю, тым больш што ў Гродне ёсць вуліца, названая ягоным імем. Аказваецца, расказвае Рыгор Казіміравіч, калі з бяроз пачынаў цячы сок, то былы сакратар абкама піў толькі гэты сок і амаль нічога не еў. А мой суразмоўца часта бываў у доме Кляцкова і таксама набыў такую звычку: на працягу амаль сарака гадоў п'е свежы бярозавы сок. *«Бывае, што за дзень я выпіваю 5 літраў соку»,* – кажа спадар Рыгор.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

НЕСТАНДАРТ

Отец Ярослав БЛИЗНЮК:

# «Мы не ловим души в сети»

*Иногда родители ставят детям ультиматум: пойдешь в воскресную школу – купим планшет…*

*Давно я не слышала звона бронзового колокольчика... А вот есть школы, где этот звук разливается по этажам несколько раз в день. Это воскресная школа прихода в честь иконы Божией Матери «Всех скорбящих Радость». Так здесь собирают учащихся на урок после перемены – без электричества, вручную. Старинная традиция! Но ведь и воскресные школы возникли не вчера, первые стали открываться при храмах еще в XVIII веке, и было это в Англии. Там малоимущие слои населения получали азы начального образования, кстати, не только духовного.*

*Конечно, сегодня занятия в воскресных школах сосредоточены только на вопросах веры, и приходят туда лишь по собственному желанию. Но кто возьмется утверждать, что дни таких школ в современном обществе вообще сочтены? Это не так! Набор детей – и взрослых! – есть каждый год. Другое дело, что сегодняшние учащиеся – это люди XXI века, их к вере в Бога не обратишь принуждением и страхом. Директору воскресной школы протадиакону Ярославу БЛИЗНЮКУ даже пришлось защищать магистерскую степень по педагогике, чтобы не отставать от требований времени. А в каком-то смысле и опережать его.*

**– Отец Ярослав, что такое воскресная школа сегодня и достаточно ли она популярна у наших соотечественников?**

– В наше время воскресная школа, если говорить языком светским, одно из социокультурных учреждений, занимающихся досугом и школьников, и взрослых. Нашей воскресной школе при храме иконы Божией Матери «Всех скорбящих Радость» 27 лет, первые годы мы даже базировались на площадях обычной средней школы, а потом уже построили свое здание. В 1990-х годах в обществе был очень высокий интерес к нам, тем более что наш приход был единственный на довольно большую территорию – Запад, Сухарево… В воскресную школу записывалось 600–700 человек каждый год.

**– И все ходят весь учебный год?**

– Как в любом досуговом кружке, 30–40 процентов отсеивается. Мы же посещаемость не контролируем, всё на добровольной основе.

**– То есть начинали вы в одном здании со средней общеобразовательной школой? Разве это правильно, законно?**

– Это был период ренессанса веры, и такая форма сотрудничества была возможна. С 1992-го по 1997 год я учился в Университете культуры на отделении хорового дирижирования и помню, что у нас чуть ли не на каждом этаже располагались какие-то духовные учреждения: баптисты, евангелисты, пятидесятники, кришнаиты. И все – доступно. Я никого не хочу унизить, но некоторые деструктивные секты пользовались этой всеобщей тягой к духовному. Сейчас в законе более четко прописаны все формы сотрудничества церкви и государства. И теперешняя жесткость в отношениях между духовными школами и государством более чем уместна.

**– Да и мы уже не такие доверчивые. Наверное, и поток учащихся понизился?**

– Сейчас, конечно, тенденция идет к понижению. Записывается в среднем 280–320 человек. Зато это более стабильные цифры, отсеивается процентов двадцать, не больше. Младшие школьники более дисциплинированны – понятно, их приводят родители. У подростков с посещаемостью хуже. Но мы понимаем – они очень заняты дополнительно: репетиторы, спорт и так далее. Хотя и среди них есть те, кто ходит постоянно. Их немного, 10–15 человек, но они есть. А больше всего маленьких детей и взрослых.

**– Взрослых какого возраста?**

– От 17 и до… бесконечности. Мы принимаем в школу всех, даже не спрашивая о вероисповедании. Католик, протестант, мусульманин – ради Бога, двери открыты. Взрослые приходят, чтобы изучать Ветхий Завет, потому что Новый Завет многие могут осилить и сами. У нас более двадцати педагогов, но священников лишь трое, остальные обычные профессионалы. Я сам протадиакон, то есть церковнослужитель, который не имеет священного сана.

**– Вы получаете зарплату?**

– Нет, воскресная школа – это мое послушание. Основное служение – в церкви. Там у меня оклад и трудовая книжка, всё официально. Уже скоро 23 года, как я в сане.

**– И отпуск есть?**

– А как же, КЗОТ мы не нарушаем, тем более у нас есть семьи, которым надо внимание уделить. Даже у монахов в монастыре есть отпуск – по желанию. Это же не тюрьма.

**– Самый важный вопрос: что и как преподавать в воскресной школе?**

– Для младших устоявшаяся схема: урок Закона Божьего, урок рисования и лепки и урок пения. Как видите, творческие дисциплины превалируют. Мы особенно заботимся о том, чтобы привить музыкальную культуру, потому что в светской школе уроки пения дают только до 5-го класса. У нас работают музыковеды с академическим образованием, дети разучивают не только «Отче наш» и «Верую», но и многое другое, что нужно для полноценного развития человека. Я считаю, что музыка – один из столпов духовного возрастания личности. Не зря же в православном богослужении ей уделяется такое большое внимание. У нас в храме, например, один из лучших хоров в Минске, он прекрасно исполняет классику – произведения Бортнянского, Рахманинова, Гречанинова.



**– Понятно, что воскресная школа воспитывает личность. Но не заложен ли здесь невидимый конфликт: религия преподает уроки милосердия и высокого духа, а потом ребенок выходит на улицу и встречается с жестокостью, а то и с цинизмом?**

– Ни одно учебное заведение, в том числе воскресная школа, не способно полностью взять на себя ответственность за созидание личности, а тем более уберечь ее от влияний извне – если это не закрытый пансионат, конечно. Я писал магистерскую работу по семейным ценностям, и скажу вам, что, если ребенка механически привели, а потом забрали, у него в душе мало что остается. Хорошо, когда воспитание идет комплексно, когда в семье те же ценности, которые проповедуем и мы.

**– Это в идеале. Но чистота и даже наивность, привитые религиозным воспитанием, неизбежно и болезненно разбиваются в дальнейшем, по-моему.**

– Видите ли, к нам приходят не стерильные дети – они живут в светских семьях, ходят в общеобразовательные школы. И мы не пытаемся оградить их от реальностей жизни, но, повторю, если к воспитанию подключена и семья, то ребенок духовно гораздо более крепок.

**– А какого рода проблемы вы как воспитатель видите сегодня?**

– Проблемы общие: дети «сидят» в телефонах, и в воскресной школе тоже.

**– Вызываете родителей для разговора?**

– Чтобы пожаловаться? Конечно, нет! Хотя бывают такие ситуации: мальчик признался, что ходит к нам потому, что папа с мамой пообещали купить планшет. И вот тогда уж мы зовем родителей, разговариваем – а надо ли человека заставлять?

**– И такого ребенка потом не неволят?**

– Да, бывает, он уходит навсегда. А другие, наоборот, остаются и становятся очень дисциплинированными учащимися. Это жизнь. Мы не стремимся любой ценой привлечь к себе тысячи, мы не ловим души в сети. Главное, чтобы у человека была свободная воля, особенно к вере. Мы вообще не пытаемся нагрузить подростков огромными знаниями. Наша задача – общение. Тем более ребята знают, что оценок им не снизят, родителям не пожалуются, и они раскрываются, могут многое про себя рассказать, чего никогда не сделают в обычном классе.

**– Ребята задают вам неудобные вопросы? Вступают в споры?**

– Конечно. Особенно подростки. В прошлый выходной один мальчик с вызовом спросил: «А как вы узнаете, верю я или нет?»

**– Мол, вдруг я вас обманываю?**

– Да. Вместо нотации я начал разбирать, что такое вера: ее смысл и цель. Вера важна сама по себе, а сейчас многие потеряли ее напрочь. А раньше купцы верили друг другу на слово.

**– Я лично знаю пример, когда человек много лет дисциплинированно посещал воскресную школу, но, когда ему исполнилось 16 лет, он вдруг сказал родителям: «Всё неправда! Я пойду своим путем». Что делать?**

– Такое бывает. Я священнослужитель в третьем поколении, но в 18 лет практически целый год не ходил в церковь. Максимализм, нигилизм описывался еще Тургеневым.

**– То есть это почти физиология и человек перерастет? А родителям надо потерпеть?**

– Как вариант.

**– Когда вы поступали в Университет культуры, вы четко знали, кем хотите быть?**

– Я хотел быть регентом в церковном хоре, а стал диаконом, как отец. Диакон – это священнослужитель первой ступени. Я имею право участвовать во всех богослужениях, но проводить их самостоятельно не могу. А вот дед мой, тот был священником, служил в Вилейском районе, в деревне Илья.

**– Он, наверное, попал под каток репрессий?**

– Сильных притеснений уже не было, дедушка служил после войны. Но в хрущевские годы давление, несомненно, он испытывал. Одну церковь в их деревне разобрали, уничтожили, а вторую, где он служил, старались закрыть, причем хитростью. Сначала около церкви на площади построили техникум. А потом начались разговоры: дети смотрят на церковь, нехорошо, давайте вас перенесем. Дед ответил: «Я месяц назад пытался купить пять листов шифера на ремонт церкви, и то мне никто не продал! А вы хотите, чтобы я поверил, что вы мне церковь перенесете и откроете на новом месте!»

**– Да, снесли бы враз…**

– Пока шли такие разговоры, он вообще ночевал в церкви, чтобы спасти свой храм.

**Елена МОЛОЧКО.**

ГЕНЕРАЛИТЕТ

# Кто такой Иван Кубраков?

*Вчера А.Лукашенко назначил нового начальника ГУВД Мингорисполкома. До недавнего времени он возглавлял УВД Витебщины. «Народная Воля» присмотрелась к его биографии.*



В начале мая этого года Кубракову исполнится 44 года. Он родился в деревне Малиновка на Могилевщине, окончил Минскую специальную среднюю школу МВД и Академию МВД. Службу в органах внутренних дел он начал с должности участкового в 1995 году. Возглавлял Заславский отдел Минского РУВД, занимал руководящие посты в главном управлении охраны правопорядка и профилактики милиции общественной безопасности МВД.

Иван Кубраков, будучи начальником Витебского УВД, был награжден орденом «За службу Родине» III степени.

В 2011 году Кубраков, будучи первым заместителем начальника управления охраны правопорядка и профилактики МВД, накануне молчаливых акций протеста говорил, что белорусская милиция не будет запрещать жителям Минска аплодировать во время празднования Дня города: *«Не надо никому бояться аплодировать. Если для этого есть повод – пожалуйста, аплодируйте, нет никаких вопросов. Никаких проблем нет».*

До переезда в Витебск Кубраков работал заместителем начальника УВД Минского горисполкома – начальником милиции общественной безопасности. Известно, что Иван Кубраков был одним из тех, кто руководил подавлением акций протеста против декрета №3 в Минске, во время которых производились массовые задержания.

В феврале 2016 года Иван Кубраков досрочно получил очередное специальное звание в порядке поощрения и погоны полковника милиции.

*«Достижение высокой ступени в своей службе считаю не столько своими заслугами, сколько результатом работы всего коллектива, поддержки родных и друзей»,* – говорил тогда Кубраков.

В прошлом году он получил генеральские погоны.

Карьера Ивана Кубракова развивалась настолько стремительно, что одно время ему даже прочили кресло министра внутренних дел. Впрочем, не исключено, что это предсказание рано или поздно может сбыться.

**Марина КОКТЫШ.**

ГЕНЕРАЛИТЕТ

# Рускі тэатр закрываюць на рамонт

*3 мая ў Нацыянальным акадэмічным драматычным Тэатры імя М.Горкага пачнецца мадэрнізацыя сцэнічнага комплексу.*

*«Плануецца, што дзесьці да лістапада будзем працаваць на пляцоўцы Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў – з тымі спектаклямі, якія найбольш падыходзяць для гэтай прасторы»,* – аб'явіў мастацкі кіраўнік тэатра **Сяргей Кавальчык**.

**Вера ВІР.**

